## КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



### Яма для бліжняга

Запомніў неваведама чаму
Майго дзядулі колішнія словы:
– Як рыем яму бліжняму свайму,
Дык звышурочна працаваць гатовы…

### Доўга запрагаем

– Вы доўга запрагаеце заўсёды! –
Пра нас гавораць розныя прыблуды.
У тым вялікі плюс і мала шкоды:
Мо й ехаць не спатрэбіцца нікуды…

### Як жывая

Партрэт напісаў знакаміты мастак
Уласнае жонкі.
І выбітна так!
Нібыта жывая на тым палатне:
Здаецца, што лаяцца зараз пачне…

### Музыка для сексу

Цалуюцца дзяўчына й маладзён.
На ложак спакваля схіляе ён…
Яна спытала з хітрасцю ўваччу:
– Для сексу, хочаш, музыку ўключу?
– Хачу! –
Юр так і прэцца з маладзёна.
Пачуў ён гукі марша Мендэльсона…

### Зажраўся

Жонка мужу так дала адлуп:
– Што, не даспадобы гэты суп?
Не мудруй!
Няйнакш зажраўся, злыдзень:
Ён жа падабаўся цэлы тыдзень!

### Можна і так пахудзець

Каб пазбаўляцца ад тлушчу памалу,
Варта хадзіць у спартыўную залу.
Спортам займацца, прынамсі, не трэба,
Досыць пабыць там без сала і хлеба.

### Дапамога

Мужчына ў нас працуе – і нямала.
Яму, каб несці цяжар, трэба сіла.
Жанчына ж мужу тым дапамагла,
Што прозвішча ягонае насіла…

### Хто куды глядзеў

Дзеўка мужыку сказала строга:
– Вы мой бюст «з'ядаеце вачыма»,
А між тым прарэшак у самога
У штанах расшпілены!
Мужчына
Над сабой не прабачаў насмешак,
Дзеўку ён адбрыў дасціпна-ўмела:
– Калі мой заўважыла прарэшак,
Дык і ты не ў вочы мне глядзела…

### Добра і дрэнна

Поспехаў дабіўся б вельмі многа,
Можа, атрымаў бы і медаль.
Добра, што Сцяпан – артыст ад Бога.
Дрэнна, што ад Бахуса, на жаль…

### Большага не дастойны

Адпачыўшы пасля сексу трошку,
Не стрымаў ён здзеку-смехаты:
– Гэта ўсё, на што ты здольна ў ложку?
– Гэта ўсё, чаго дастойны ты…

### Сямейны адпачынак

Што ўсё-такі сямейны адпачынак?
Я даў бы вызначэнне гэткім чынам
(І падтрымаюць сем'і некаторыя):
«Працяг вайны на іншай тэрыторыі»…

### Выбар

Неяк з суседам застукаў «палову»
Муж і з кішэні дастаў пісталет:
– Выйдзем у двор і працягнем размову –
Там мы як след
Разбяромся, сусед…
Выйшлі. І мужа апошнія словы:
– Я не вынослівы вырак круты.
Проста мы высветлім тут канчаткова,
Я даспадобы ёй болей ці ты.
Эксперымент правядзём мы з табою:
Я з пісталета
Два стрэлы зраблю;
Быццам забітыя імі, абое
Мы, як снапы, упадзём на зямлю.
Стрэлы пачуць мая жонка павінна.
Кінецца, ясна, адразу да нас.
І да каго падбяжыць «палавіна»,
Той і абраннікам будзе якраз.
Так і зрабілі.
І гулкія стрэлы
Жонка пачула. Бягом – да акна.
І сапраўды нерухомых цэлы
Там, у двары, разглядзела яна.
– Годзе гуляць, як гаворыцца,
ў жмуркі! –
Жонка пазвала каханка свайго. –
З шафы вылазь! Бо, здаецца,
прыдуркі
Перастралялі адзін аднаго…

ГЛАС НАРОДА!

# Пусть восторжествует благоразумие!

Последние события в стране показали, что общество практически расколото. Одну, малочисленную, часть представляют ближайшее окружение А.Лукашенко и управленцы всех уровней, а также часть населения, находящуюся в зависимости от вертикали. Вторая часть, многочисленная, не признает Лукашенко легитимным президентом. И у миллионов людей, придерживающихся такой позиции, есть четкие основания. Президентские выборы прошли с грубейшими нарушениями и фальсификациями итогов голосования. На улицы и площади вышли сотни тысяч недовольных жителей не только в Минске, но и в других городах Беларуси. Протестующие вот уже месяц требуют отставки Лукашенко, проведения новых выборов и привлечения к ответственности членов избирательных комиссий, поправших закон.

Но есть еще одна часть общества, которая тоже не приемлет Лукашенко. Она выступает за тесный союз с Россией. Хотя накануне выборов Лукашенко столько наговорил о России!.. Однако можно поссорить президентов, но нельзя поссорить народы. Наши страны очень во многом тесно связаны, и, конечно, есть люди, которые и в мыслях не допускают разрыва отношений с Россией. Пока они не участвуют в протестных акциях и не выходят на улицы под бело-красно-белыми флагами, у них совсем другая идеология.

Есть подозрения, что, когда требование протестующих «Уходи!» будет выполнено, у этой категории граждан появится новый лозунг – «Хотим идти в Европу!». Но на этом пути уже много лет топчется наша соседка Украина.

Тем не менее это часть нашего общества, и она имеет право на свое мнение. И чем дальше будут продолжаться протесты, тем больше будет сторонников этого пути. Нужно срочно разрешить этот конфликт. И решать его нужно без «автоматчиков». Лукашенко нужно уйти в отставку. Далее следует провести новые – демократические – выборы с участием всех слоев общества. Для контроля за их ходом нужно будет пригласить международные комиссии. Затем в спокойной обстановке обсудить и принять новую Конституцию.

Не исключено, что общество придет к тому, что Беларуси вообще не нужен институт президентства. Это очень затратная надстройка в структуре управления страной.

Пусть в нашей стране восторжествует благоразумие!

**Александр Андреевич ЗАККИС, гражданин Республики Беларусь.**

РЭГІЁН

# Чаму турысты баяцца ехаць у Гродна?

Гродзенскія ўлады праз дзяржаўныя СМІ спрабуюць абвінавáціць у гэтым несанкцыянаваныя мітынгі, натоўпы людзей на вуліцах гарадоў, дэманстрацыі пратэсту.

Намеснік начальніка ўпраўлення спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама **Таццяна Лідзяева** ў адным з інтэрв'ю сказала, што ўся турыстычная сфера: турфірмы, аб'екты харчавання, гісторыка-культурная спадчына, гасцініцы, кафэ, рэстараны – пад пагрозай.

У жніўні 2019 года, паводле яе слоў, Гродзеншчыну наведалі амаль 14 тысяч турыстаў, сёлета – каля 1600. Экспарт турыстычных паслуг за апошнія паўгода склаў 2,2 мільёна долараў. Летась за аналагічны перыяд вобласць зарабіла каля 6 мільёнаў долараў.

Так, рэгіён згубіў значныя сродкі ад турыстычнай сферы. І, вядома ж, у многім гэта звязана з грамадска-палітычнай сітуацыяй у нашай краіне. У той жа час што зрабілі гродзенскія ўлады, каб людзі не выходзілі на вуліцы, не пратэставалі? На жаль, менавіта яны вінаватыя ў тым, што адбыліся масавыя фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, з чым грамадскасць не можа змірыцца.

Тым часам у Польшчы пракуратура пачала расследаванне па факце арышту, збіцця і катаванняў у Беларусі трох палякаў, якія прыехалі ў нашу краіну ў турыстычных мэтах. Іх затрымалі ў Мінску 9 жніўня. Пра гэта паведаміла радыё *RMF24*.

Пасля вяртання з Беларусі, згодна з інфармацыяй радыё, яны прайшлі дэталёвае абследаванне, судова-медыцынскую экспертызу, іх траўмы былі пацверджаны заключэннем эксперта.

Двое з іх – Вітальд Дабравольскі і Каспер Сяніцкі, асоба трэцяга не разгалошваецца. Дабравольскі распавёў, што іх затрымалі 9 жніўня пасля выхаду з рэстарана. Першыя 15 гадзін іх трымалі ў памяшканні, падобным на спартыўную залу, дзе былі яшчэ тры сотні затрыманых, там іх білі і пагражалі. Пазней перавезлі ў СІЗА Жодзіна. Палякі выйшлі на волю 13 жніўня.

Падобныя затрыманні былі і ў Гродне. Некаторыя з польскіх турыстаў аказаліся за сценамі гродзенскай турмы, а пазней былі асуджаны і выдалены з краіны. Гэта, як і многае іншае, негатыўна адбіваецца на іміджы нашай краіны, а таму паток турыстаў, у тым ліку на Гродзеншчыну, скарачаецца.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО!

# Как в Витебске травили газом




В Витебске четвертое воскресенье подряд проходили общегородские марши протеста против фальсификации итогов президентских выборов. Раньше милиция просто наблюдала за демонстрантами и снимала их на видео. А 6 сентября впервые произошли жесткие стычки силовиков с протестующими. Были применены дубинки, а также газ из баллончиков.

Посмотрите, уважаемые читатели, на этот снимок. Ну зачем, скажите, травить газом молодого человека? Неужели столько милиционеров не могут спокойно справиться с одним парнишкой? Чему их учили? На что они способны? Нет, это не поддержание порядка, а расправа над людьми. Тут уже нужно говорить не о правонарушениях со стороны протестантов, а о полнейшем произволе людей в погонах.

**Виктор КОРЗУН.**

**Фото Алеся ПИЛЕЦКОГО.**

ОСТРЕЙШАЯ ТЕМА!

# Необходимая оборона

Десятилетия руководящей лжи Лукашенко и его окружения исказили правосознание даже у самых честных людей. И вот участники мирных протестов – «просто гуляющие», а фальсификаторы итогов голосования президентских выборов объявляют свою вакханалию абсолютно законной и единственно справедливой.

Конечно, отдельно взятые нынешние протесты могут формально выглядеть нарушениями законодательства о массовых мероприятиях. Но нелепо же так выдергивать эпизоды из ситуации в целом, совершенно не замечая настоящие злодеяния.

Если придерживаться **фрагментарной** логики, согласно которой хватают и карают исключительно «участников беспорядков», то придется оштрафовать за «купание в запрещенных местах» (статья 23.63 КоАП) подростка, слетевшего в реку. А педофоба, столкнувшего это дитя, – премировать за успешное применение «традиционной» методики воспитания. Также не избежать привлечения к уголовной ответственности (по статье 147 УК за «умышленное причинение тяжкого телесного повреждения») женщины, укусившей насильника. Заодно взыскав с этой «членовредительницы» компенсацию вреда здоровью и деловой репутации «потерпевшего». А там, где граждане наконец возмутятся тем, что их все сильнее бьют и грабят, – «правоохранителям» следует арестовывать вовсе не распоясавшихся бандюганов, а обывателей, шумящих без дозволения, предварительно поколотив их за попытки сопротивления.

Правда, при таком «правопорядке» и самим силовикам придется переориентироваться всецело. Ведь взимание законных штрафов попадет под статью о грабеже, приведение в исполнение узаконенной смертной казни будет классифицироваться как убийство при отягчающих обстоятельствах. А все герои войны пойдут под суд за совершенные подвиги. Зато будет позволено безнаказанно драть любую мзду, казнить без суда и следствия, а на фронте, грубо говоря, мочить своих.

Именно такую «правовую систему» насаждают сейчас Лукашенко и те, кто ему содействует в достижении «шестого срока». Очевидно же, что для них насильственная легализация фальшивки – торжество законности и правопорядка, а мирное сопротивление фальсификациям – кровожадно-преступный хаос.

Меж тем Конституция и законы Беларуси предусматривают только один легитимный путь занятия высшего государственного поста – выборы с соблюдением множества важных принципов и предписанных процедур. Президентские ж выборы 2020 года – это настолько глумливая симуляция избирательного процесса, что миллионы людей негодующе не приемлют объявленных результатов. И, заметьте, делают это пятую неделю подряд, несмотря на мучительные репрессии невиданных прежде масштабов.

Даже те, кто по разным причинам выступает за сохранение власти прежним их господином, жаждут вовсе не истины, а спокойствия и стабильности. Ошибочно полагая, будто их подзащитный действительно был создателем некоего благолепия в прошлом и способен на то же в будущем. Им непонятно доныне, кто в нашем государстве беспрерывно устраивает скандалы и столкновения, а кто реально стремится к согласию и сотрудничеству, невзирая на все провокации.

«Я не знаю, каков процент сумасшедших на данный час», зато перед нами тысячи свидетелей и свидетельств того, что выборы насквозь фальшивы.

К примеру, согласно части второй статьи 65 Конституции, «подготовка и проведение выборов проводятся открыто и гласно». Поэтому единственного «пустячка» – невывешивания для **всеобщего** ознакомления копий большинства протоколов УИК – достаточно для признания недействительности выборов (часть одиннадцатая статьи 55 Избирательного кодекса).

А ведь были деяния намного крамольнее этого: оскорбления и клевета, подставы и провокации, штрафы и аресты, высылки и изгнания, и, наконец, избиения, убийства, пытки… Госорганы всячески пренебрегали законодательными запретами и ограничениями ради вмешательства в выборы. Встречи с альтернативными кандидатами отменялись под предлогами ненужных ремонтов и несуществующих в нашей стране праздников. Участковые комиссии натравливали милицию на неугодных им наблюдателей и журналистов… И всё с очевидной целью продлить пребывание у власти вертикального кандидата.

При этом он сам не раз выбалтывал свое соучастие в преследованиях и притеснениях конкурентов, то есть демонстративно попирал равноправие кандидатов, закрепленное в статье 66 Конституции. А до того рассказывал, как фальсифицировал выборы. И бравировал этим настолько цинично, что отбил все сомнения в своем маниакальном пристрастии к подобному «трюкачеству».

Совершаемое на наших глазах удержание власти, вне всяких сомнений, описано в статьях Уголовного кодекса. И прежде всего в части третьей статьи 357 УК, предусматривающей лишение свободы на срок от 10 до 25 лет, или пожизненное заключение, или смертную казнь за действия, совершенные с целью удержания государственной власти неконституционным путем и повлекшие гибель людей.

А то, что ЦИК, правоохранительные и судебные органы делают вид, будто бы все подлинно и законно, лишь превращает соответствующих официальных лиц в исполнителей или пособников криминальных деяний, но нисколько не способствует декриминализации содеянного. Нахождение «при исполнении» не отменяет, не смягчает, а наоборот – отягчает ответственность (пункты 6 и 12 части первой статьи 64 УК).

Кто нынче у нас настоящий преступник, а кто истинный борец с преступностью, нетрудно определить даже по внешнему виду и манерам поведения. У одних – открытые добрые лица и безоружные руки, как принято у честных законопослушных людей. У других – маски, шлемы и прочая маскировка, резиновые палки и боевое оружие, машины без номеров и зловещие механизмы. Причем именно эти другие дезорганизуют движение в городе, топчут газоны, портят дома и дворы, исподтишка похищают и избивают людей, не желая назвать себя и предъявить доказательства и документы. Во всю ширь своего «норова» проявился и тот, кто больше четверти века стравливал, запугивал и обманывал. Ужель и теперь не видно, вопреки кому устанавливалось спокойствие в нашей прекрасной стране?!

Возьмись добросовестный сыщик разобраться в происходящем – и вмиг бы исчезли сомнения, до какой фантастической степени фальсифицированы результаты выборов. И тогда 6 новый срок для действующего правителя пришлось бы обсуждать в совершенно ином контексте. Но кто же рискнет расследовать, коль Лукашенко и УЛИЦА наводят такие УЖАСЫ. Коль «крепкому орешку» еще предстоит раскрыть свою полную никчемность при отсутствии народной поддержки и истощении казны. Коль белорусским толпам все еще не удается развеять абсурдный миф о собственной кровожадности, придуманный псевдоисториком.

К счастью, даже при нынешней «диктатуре» каждый имеет право отстаивать государственные и общественные интересы, прибегая к **необходимой обороне**, достаточно внятно прописанной и в Уголовном кодексе, и в Кодексе об административных правонарушениях.

Даже среди юристов порой встречаются люди, склонные слишком узко трактовать понятие «необходимая оборона». Мол, это лишь право соразмерного ответа на насилие, угрожающее лично вам или вашим близким. Отнюдь! В статье 34 УК читаем: «Не является преступлением действие, совершенное в состоянии необходимой обороны, то есть при защите жизни, здоровья, прав обороняющегося или другого лица, интересов **общества или государства** от общественно опасного посягательства путем причинения посягающему вреда, если при этом не было допущено превышения пределов необходимой обороны».

А разве, скажите, вред от наших мирных протестов так велик, чтобы его расценивать как «превышение»?! Нет и еще раз НЕТ! Неизмеримо вреднее противоправное и «общественно опасное» удержание власти лицом, неоднократно похвалявшимся собственными преступлениями: от получения элитарного авто в «подарок» до организации «систематического осуществления казней без суда» (что в статье 128 УК называется «преступлением против безопасности человечества»).

Не стоит забывать и то, что по той же статье 34 УК «право на защиту от общественно опасного посягательства принадлежит лицу независимо от возможности избежать посягательства либо обратиться за помощью к другим лицам или органам власти». То есть любой гражданин может оборонять свое государство от узурпации без оглядки на госорганы, обязанные подобное пресекать. А уж если такие органы и вовсе бездействуют, то помимо статьи о «необходимой обороне» защитник государства и общества вправе опереться еще и на статью о «состоянии крайней необходимости» (статья 36 УК).

Аналогичным образом граждане защищены статьей 5.1 КоАП, согласно которой «не является административным правонарушением действие, совершенное в состоянии необходимой обороны». Есть в том же кодексе и статья о «крайней необходимости» (статья 5.3 КоАП).

Более того, у каждого из нас есть право задерживать правонарушителей и преступников с причинением им вреда, «если иными средствами задержать такое лицо не представлялось возможным» (статья 5.2 КоАП и статья 35 УК). И, насколько я понимаю, преступник с огнестрельным оружием в руках должен быть готов к самым крайним ответным мерам, без которых ведь невозможно обезвредить и задержать его.

Из всего вышесказанного я делаю вполне однозначный **ВЫВОД**: нынешние мирные протесты считать правонарушениями и тем более преступлениями **совершенно незаконно**. Они вообще максимально гуманная и благородная форма необходимой обороны от таких преступлений, как удержание власти неконституционным путем.

Я, естественно, понимаю, что практически невозможно убедить в законности нашей «необходимой обороны» бесноватых изуверов, так упоенно мучающих и унижающих ближних. Напрочь забывая при этом, что заведомо неправомерный приказ не подлежит исполнению под угрозой уголовной ответственности (часть вторая статьи 40 УК и пункт 3 примечания к главе 37 УК).

Драчуны и убийцы надеются, что им не придется отвечать, что их наградят за зверства, а не устранят как ненужных свидетелей начальственных злодеяний. Но все-таки осознание абсолютной правомерности своего поведения должно избавлять протестующих от излишних душевных терзаний. Да и в карательных органах не так уж и много бессовестных. Поэтому есть надежда, что растолкованное здесь поумерит желание терроризировать участников «несанкционированных акций».

В наших общих интересах не скатываться к напророченной нам «резне» между лукашистами и антифашистами. Нам нужно скорее приниматься за серьезнейшие проблемы и конфликты, накопленные бывшим лидером. Он-то успеет сбежать, а нам всё это останется…

**Александр ПЛАСКОВИЦКИЙ, экс-начальник главного юридического управления Администрации президента Республики Беларусь.**

## Из личного дела



*Александр Пласковицкий родился 24 сентября 1964 года в Минске в семье рабочих-тракторостроителей.*

*В 1972–1982 годах учился в СШ №98 г.Минска.*

*В 1982–1983, 1986–1989 годах – студент юрфака БГУ.*

*С 1983-го по 1985 год – рядовой, младший, старший сержант, старшина Советской армии.*

*С 1987 года женат. Имеет сына Владимира 1988 года рождения, дочь Антонину 1989 года рождения.*

*1989 год – помощник заведующего орготделом Партизанского райисполкома г.Минска.*

*1989–1991 годы – старший лаборант, младший научный сотрудник Института философии и права Академии наук БССР. Одновременно в качестве соискателя закончил аспирантуру. Тема кандидатской диссертации – «Право собственности на природные ресурсы».*

*1991–1994 годы – референт, старший референт, завсектором, и.о. завотделом Секретариата Верховного Совета Республики Беларусь.*

*1994–2000 годы – завотделом, замначальника главка, начальник главка Администрации Президента Республики Беларусь.*

*Уволен «по требованию работника» (часть первая ст.41 ТК). С тех пор фрилансер и временами сторож.*

РЕЗОНАНС

## Евросоюз введет санкции против 40 представителей белорусского режима

В санкционном списке будут лица, которые принимали участие в фальсификации результатов президентских выборов и причастны к жестокому подавлению протестов в Беларуси.

По словам одного из дипломатов, список пока является неполным, поскольку до сих пор продолжаются дискуссии, должен ли в списке быть Александр Лукашенко, который выполняет обязанности президента Беларуси.

Санкции предусматривают запрет на въезд в страны ЕС и замораживание финансовых активов на территории блока.

Ранее агентство Reuters сообщало, что Евросоюз до середины сентября намерен ввести санкции против 31 высокопоставленного чиновника Беларуси, в том числе против главы МВД.

По данным СМИ, Лукашенко под санкции не попадет. Германия, которая в течение шести месяцев председательствует в ЕС, хочет больше времени для диалога и оставить открытой возможность добавления имени президента на более позднем этапе.

Как сообщала «Народная Воля», 31 августа Литва, Латвия и Эстония стали первыми в мире государствами, которые ввели персональные санкции после противоречивых выборов и подавления мирных протестов в Беларуси.

Балтийские государства внесли в санкционные списки 30 белорусских чиновников, включая Лукашенко.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## В бундестаге готовы взять под опеку Марию Колесникову в случае ее заключения

Вице-глава бундестага Клаудиа Рот готова поручиться за белорусскую оппозиционерку в случае ее длительного заключения.

Об этом Рот рассказала в интервью агентству новостей *dpa*:

*«Мария Колесникова – лицо демократического движения в Беларуси, я выражаю ей свою большую солидарность, ее необходимо поддерживать и защищать».*

По словам Рот, если Колесникову лишат свободы на длительный срок по политическим мотивам, она как заместитель председателя бундестага возьмет опеку над белорусской оппозиционеркой.

В то же время, по данным офиса Клаудии Рот, подобная опека может быть организована через правозащитную организацию Libereco, которая выступает за соблюдение прав человека в Беларуси и Украине.

А КАК У НИХ?..

## Маски, ограничения для транспорта и развлечений: Турция усилила карантин

*Турция анонсировала новые карантинные ограничения из-за роста количества заражений. Распоряжение об усилении карантина прислали губернаторам всех провинций, которых в стране 81.*

На всей территории страны в общественных местах маски будут обязательными, включая такие пространства, как парки и пляжи.

Запрещают перевозку стоячих пассажиров в городских автобусах, в частности микроавтобусах, если при этом невозможно обеспечить соблюдение дистанции. Жесткость этого ограничения для метро, трамваев и больших автобусов регионы могут определять самостоятельно.

Запрещают концерты и подобные развлечения в ресторанах, гостиницах и кафе после 24.00.

Кроме этого, местные власти призывают усилить проверку соблюдения карантина на рынках, пляжах, в учреждениях и других общественных местах.

С первых дней сентября суточный прирост заражений в Турции составляет около 1,5 тысячи, а 7 сентября превысил 1700. Всего с начала эпидемии в Турции зарегистрировали 281.500 подтвержденных случаев коронавируса и 6730 смертей.

СЛЫШАЛИ?

## Нобелевский лауреат Светлана Алексиевич обратилась к белорусам и российской интеллигенции

Уже не осталось никого из моих друзей-единомышленников в президиуме Координационного совета. Все или в тюрьме, или выброшены за границу. Сегодня взяли, последним, Максима Знака.

Сначала у нас похитили страну, похищают лучших из нас. Но вместо вырванных из наших рядов придут сотни других. Восстал не Координационный комитет. Восстала страна. Я хочу повторить то, что говорю всегда. Мы не готовили переворот. Мы хотели не допустить раскола в нашей стране. Мы хотели, чтобы в обществе начался диалог. Лукашенко говорит, что не будет говорить с улицей, а улица – это сотни тысяч людей, которые каждое воскресенье и каждый день выходят на улицу. Это не улица. Это народ.



Люди выходят на улицу со своими маленькими детьми, потому что они верят, что они победят.

Еще я хочу обратиться к русской интеллигенции, назовем это так по-старому обычаю. Почему вы молчите? Мы слышим только редкие голоса в поддержку. Почему вы молчите, когда видите, как растаптывают маленький, гордый народ? Мы все еще ваши братья.

А своему народу я хочу сказать, что я люблю его. Я горжусь им.

Вот опять кто-то неизвестный звонит в дверь…

Напомним, что сегодня к Светлане Алексиевич пришли оперативники в штатском, ей звонят на телефон и домофон, требуют впустить в квартиру.

З-ЗА КРАТАЎ

## У камеры Павел Севярынец быў без ботаў

На Акрэсціна іх проста згубілі, у халоднай камеры ён быў у шлёпанцах. І займеў праблемы з нагамі. Пра гэта «Народнай Волі» распавяла жонка Паўла Севярынца Вольга, якая літаральна ўчора атрымала ад мужа тры новыя лісты.

– Адразу тры прыйшлі! – *сказала Вольга.* – Але не магу сказаць, што ад яго шмат навін. Ён не піша нічога такога, відаць, спецыяльна, каб лісты прапускалі.

**– Але больш-менш нармальнае ліставанне паміж вамі ўжо наладзілася?**

– Я не сказала б. Адзін ліст спачатку прыйшоў, і праз паўмесяца потым – тры адразу. Хацця я ведаю, што ён піша рэгулярна. Але ёсць хоць такое ліставанне – і дзякуй Богу! Адвакат да яго ходзіць прыкладна раз у паўмесяца, бо працэс стаіць, ніякіх следчых дзеянняў з ім не праводзіцца.

**– Адвакат проста яго праведаць ходзіць?**

– Так. Да гэтага адвакат была, калі былў допыт і калі прад'яўлялі абвінавачанні. З тых часоў – нічога.



Паша напісаў пра тое, што чуў, як нейкія дзяўчаты спявалі «Купалінку» і потым ім суседнія дворыкі пляскалі. Гэта такі цікавы момант, пра які ён піша ў апошніх лістах.

**– Прэсу незалежную яму ж не прыносяць?**

– Так. Прыносяць толькі «СБ», бо іншым газетам заблакіравалі распаўсюд. Ён гаворыць, што з дзяржаўнай прэсы, як з крывога люстэрка, можна больш-менш зразумець, што адбываецца на волі.

Піша, што шмат моліцца, што захапляецца беларусамі. Перажывае, што ў беларускія справы можа ўмяшацца Расія, але кажа, што пры такой колькасці людзей, якія выходзяць цяпер на вуліцы, наўрад ці што атрымаецца.

Павел паведаміў, што да яго пачалі патроху прапускаць лісты і ад тых людзей, якія пішуць яму словы падтрымкі. Некаторых, дарэчы, ён нават і не ведае.

**– На ўмовы на Валадарцы не скардзіцца?**

– Мне падаецца, што горш, чым на Акрэсціна, няма нідзе.

**– Колькі чалавек у камеры, дзе ён сядзіць?**

– Камера на дваіх. Але ён пра ўмовы асабліва нічога не піша.

**– Ведаю, што не так даўно маці Паўла адмовілі ў спатканні з ім. Мяркую, няма падстаў. А вам?**

– Я таксама звярталася з просьбай аб спатканні, але пакуль не ведаю... Я зараз не ў Мінску, ведаю, што нейкі ліст са Следчага камітэта прыйшоў, але мне ў рукі ён яшчэ не трапіў.

**– А як вы спраўляецеся без Паўла?**

– Шчыра кажучы, цяжка. Але вось зараз, калі прыйшлі лісты, дыхаць стала крыху лягчэй. З'яўляюцца сілы, і нешта хочацца рабіць, асабліва калі Паша піша, што будзе дамагацца спаткання, просіць нейкія рэчы перадаць. А так… Гэты раз чамусьці мне складана. Вельмі вялікае беззаконне творыцца ў краіне. Не толькі Паша, але і іншыя сядзяць па надуманых прычынах. І ўся цяжкая атмасфера, якая цяпер пануе ў краіне, накладае свой адбітак. І на душы цяжкавата.

А ў побытавым плане няма асабліва на што скардзіцца. Нам дапамагаюць, усё добра.

**– Вы сказалі, што зараз не ў Мінску. А дзе?**

– У маіх бацькоў разам з Францішкам. Прыхварэла, нейкі моцны вірус падхапіла (але не каранавірус), і цяпер ніяк не можам вярнуцца.

Дарэчы, Павел піша, што на Акрэсціна згубілі яго ботаы і ён усё лета правёў у вельмі вялікай камеры ў адных шлёпках, і толькі зараз яму перадалі абутак, бо мы і падумаць не маглі, што можна згубіць боты чалавека! Добра, што хоць на Валадарку можна перадаваць рэчы. Можа, нават і спецыяльна абутак згубілі, каб такім чынам ціснуць на яго, стварыць некамфортныя ўмовы.

Паша сядзіць з 7 чэрвеня. Ужо больш за тры месяцы… Я стараюся заставацца аптымісткай, але ў той жа час рыхтуюся да горшага. Сам Паша трымаецца годна. І па лістах не бачна, што ён шмат перажывае. Ён моцны. Сумуе, канешне, па нас. Але ўсе мы спадзяёмся, што гэтая справа рассыплецца, бо там і смех і грэх, нават няма пра што гаварыць…

**– Францішак сумуе па бацьку?**

– Так, ён расце і многія рэчы разумее. Паша яму, дарэчы, прысвяціў кавалак ліста, я Францішку яго прачытала.

Мяне ведаецe што падтрымлівае яшчэ? На Валадарцы добрая кампанія зараз, усё прыстойныя і харошыя людзі, я падтрымліваю кантакты з роднымі. І разумею, што не адна. І ад гэтага крыху прасцей і лягчэй…

ТЫМ ЧАСАМ

### «Мама, прабач, калі ласка…»

***Ліст ад Паўла не так даўно атрымала і ягоная маці Таццяна Севярынец.***

*«Малюся, думаю пра вас, Волечку з Францішкам, – піша Павел. – Вельмі шкадую, мамулечка, што не адказаў на твой апошні званок – адной нагой ужо быў не дома, тэлэфон не браў з сабой. Прабач, мама, калі ласка…»*

Марына **КОКТЫШ.**

ИНИЦИАТИВА

## Дональд Туск предложил выдвинуть Тихановскую на Нобелевскую премию мира

Экс-председатель Евросовета и бывший премьер-министр Польши **Дональд Туск** предложил Евросоюзу номинировать экс-кандидата в президенты Беларуси **Светлану Тихановскую** и ее мужа, белорусского блогера **Сергея Тихановского**, на Нобелевскую премию мира.



*«Думаю, это будет мощным сигналом, если ЕС выдвинет на Нобелевскую премию мира Светлану Тихановскую и ее мужа Сергея, который до сих пор находится в тюрьме, чтобы отдать дань уважения всем белорусам, участвовавшим в этом самом мирном за многие годы движении (протеста)»,* – написал Туск в *Twitter*.

МАРШРУТЫ

## Финляндия хочет разрешить въезд туристам даже из «красной зоны»

Правда, с одним условием.

Правительство Финляндии хочет путем законодательных изменений облегчить иностранным туристам въезд в страну. Премьер-министр **Санна Марин** на встрече с журналистами заявила, что после нововведения в Финляндию можно будет приехать также из «красных» стран с высоким риском заражения коронавирусом – при наличии свежего негативного теста на COVID-19.

Ограничения, введенные из-за пандемии коронавируса, создали серьезные проблемы для туристической сферы Финляндии. В частности, зимний туристический сезон в Лапландии под угрозой срыва.

Планируется, что правительство Финляндии обсудит изменения правил поездок уже в ближайшие дни.

ГРОМКАЯ ТЕМА

## Страны G7 требуют от России ответов…

Главы МИД стран Группы семи (G7) требуют от России немедленно прояснить, кто несет ответственность за отравление оппозиционера Алексея Навального, и наказать виновных.

Об этом говорится в заявлении министров.

*«Мы, министры иностранных дел Германии, Франции, Италии, Японии, Канады, Великобритании и Соединенных Штатов Америки, а также высокий представитель Европейского Союза единогласно и решительно осуждаем доказанное отравление Алексея Навального»* – говорится в заявлении.

Как отмечается, Германия проинформировала партнеров по G7 о том, что клинические и токсикологические исследования немецких медицинских специалистов и специальной лаборатории бундесвера показали, что Навальный стал жертвой нападения с применением химического нервно-паралитического вещества из группы «Новичок», разработанной Россией.

*«Мы, министры иностранных дел стран G7, призываем Россию немедленно и полностью прояснить, кто несет ответственность за эту отвратительную ядовитую атаку, и привлечь виновных к ответственности в свете обязательств России по Конвенции о запрещении химического оружия»,* – подчеркнули министры.

Они называют нападение на Навального еще одним тяжелым ударом по демократии и политическому плюрализму в России.

*«Он представляет серьезную угрозу для всех тех, кто работает над защитой политических и гражданских свобод, которые Россия обязалась гарантировать. Мы призываем Россию соблюдать свои обязательства по Международному пакту о гражданских и политических правах и гарантировать эти права, включая право на свободу выражения мнений, своим гражданам»,* – говорится в заявлении.

Алексей Навальный, известный критик президента Владимира Путина, был доставлен в Германию в прошлом месяце после того, как потерял сознание во время полета из Томска в Москву.

Германия пришла к выводу, что он был отравлен веществом из группы «Новичок».

7 сентября клиника «Шарите», где находится Навальный, сообщила, что политика вывели из искусственной комы.

В ФОКУСЕ

## Глава Еврокомиссии крайне обеспокоена планами Британии нарушить Brexit-договоренности

Президент Еврокомиссии Урсула фон дер Ляйен назвала намерение Великобритании одобрить законопроект о внутреннем рынке нарушением международного права, что способно подорвать доверие к Лондону.

Об этом сообщает «Европейская правда».

*«Очень обеспокоена заявлениями британского правительства о намерениях нарушить Соглашение о выходе. Это нарушит международное право и подорвет доверие. Договоры должны выполняться – это основа благополучных отношений в будущем»,* – заявила фон дер Ляйен в своем *Twitter*.

Законопроект о внутреннем рынке Великобритании, касающийся таможенных процедур в Северной Ирландии, должен быть поставлен на первое голосование в парламенте Великобритании на следующей неделе.



Документ касается вопросов так называемого протокола Северной Ирландии – элемента соглашения о выходе из ЕС, предназначенного предотвратить возвращение «жесткой» границы между Северной Ирландией и Республикой Ирландия.

Лондон утверждает, что документ сделает лишь *«незначительные уточнения в чрезвычайно конкретных сферах»*.

ЕС заявил, что только полное внедрение соглашения о выходе является *«предпосылкой переговоров о будущем партнерства»* между блоком и Британией.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

## Сколько зарабатывает канцлер Германии Ангела Меркель?

Многие полагают, что, поскольку Меркель занимает высшую должность в стране и занимается важными государственными делами на протяжении столь долгого времени, то она, несомненно, является миллионером. Но так ли это на самом деле?

В принципе, доходы любого политика в Германии не являются государственной тайной, сообщает *www.germania.one*. При желании информацию может получить любой гражданин. Итак, согласно общедоступным данным, федеральный канцлер Германии Ангела Меркель получает в месяц примерно 18.000 евро. Кроме того, ей положена дополнительно половина месячной зарплаты депутата, которая в настоящее время составляет около 4554 евро, а также паушальная сумма расходов в размере 3230 евро. Таким образом, месячный доход Ангелы Меркель составляет примерно 25.800 евро, или 300.000 в год. Это означает, что за последние десять лет Меркель заработала на посту канцлера более 2,4 миллиона евро.



В период с 2001-го по 2005 год Меркель заработала в общей сложности около 400.000 евро в качестве депутата парламента плюс 550.000 в качестве федерального министра и за членство в федеральном правительстве. В итоге получается, что за годы политической карьеры Ангела Меркель заработала около 3,5 миллиона евро. За исключением расходов на проживание, состояние канцлера оценивается в настоящее время примерно в 3 миллиона. Возможно, кому-то покажется, что это огромная сумма. Однако не стоит забывать, что Ангела Меркель много лет трудится на благо 82 миллионов граждан Германии.

МУДРЫЕ МЫСЛИ

★★★ Власть спокойно терпит комплименты и аплодисменты, а все остальное терпит народ.
(Восточная мудрость.)

★★★ Для меня всегда оставалось загадкой, как это люди считают за честь для себя унижать своих сограждан.
Махатма ГАНДИ (1869–1948), индийский мыслитель и политический деятель.

★★★ Лучше страшный конец, чем бесконечный страх.
Фридрих ШИЛЛЕР (1759–1805), немецкий поэт, драматург.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Вадзім КРЫВАШЭЕЎ:

# «Я адкрыты для прапаноў…»

Звольнены за «кепскую ідэалагічную працу ў калектыве» дырэктар Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па фрыстайле Крывашэеў шукае працу.

Перад звальненнем Крывашэева шэраг фрыстайлістаў асудзіў дзеянні беларускай улады. Крытыку выказалі вядомыя спартсмены **Аляксандра Раманоўская** і **Дзмітрый Дашчынскі**, а таксама трэнер зборнай **Мікалай Казека**.

На сустрэчы з міністрам спорту дырэктару цэнтра паведамілі пра кепскую ідэалагічную работу і прапанавалі перайсці на аналагічную пасаду ў іншы РЦАП – воднолыжнага спорту.




– У аддзеле кадраў мяне адразу папярэдзілі, што калі не пагаджуся на пераход, то буду звольнены па 259-м артыкуле, – распавёў **Вадзім КРЫВАШЭЕЎ** «Народнай Волі». – Я і не пагадзіўся, бо які ў гэтым сэнс? На пасадзе кіраўніка цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па фрыстайле я працаваў амаль тры гады. Прыходзіў на працу і дванаццаць гадзін у суткі жыў толькі гэтым. Аддаваў справе ўсяго сябе. А потым да цябе прыходзяць і без усялякіх падстаў кажуць: «Ведаеш, хлопец, ты – дрэнны кіраўнік». Пытаўся: «Чаму вы даяце мне такую характарыстыку? Назавіце пытанні, якія я, можа быць, не вырашыў». Аказваецца, дрэнна праводзіў ідэалагічную працу ў калектыве.

**– Што ж вы завалілі такі адказны для краіны ўчастак работы?**

– Вось і Міністэрства спорту гэтага ніяк не можа зразумець, а таму і прынялі неабходныя меры. Некаторыя спартсмены нацыянальнай зборнай, галоўны трэнер каманды Мікалай Іванавіч Казека – усе яны асудзілі гвалт у краіне. Многія, у тым ліку і работнікі нашага цэнтра, падпісалі ліст, у якім выступілі супраць шматлікіх фальсіфікацый падчас выбараў, а таксама за спыненне здзекаў з людзей. Паводле меркавання спартыўных чыноўнікаў, такое абсалютна недапушчальна. Таму, відаць, палічылі, што я – даволі небяспечны і ненадзейны кадр.

**– Чым далей плануеце заняцца?**

– На гэты момант сустракаюся з сябрамі і калегамі, абмяркоўваем розныя варыянты. Магчыма, адкрыю нейкую сваю справу альбо працаўладкуюся па іншай спецыяльнасці. У структуры Міністэрства спорту наўрад ці буду працаваць пры сённяшнім кіраўніцтве.

Канкрэтыкі пакуль няма, таму напішыце, што я адкрыты для любых прапаноў…

**Алесь СІВЫ.**

З-ЗА КРАТАЎ

# Як «на сутках» у Гродне агітуюць за Лукашэнку

За 15 сутак адбыцця пакарання ў камеры Гродзенскага ізалятара часовага ўтрымання, што на вуліцы Гая, Юрыя Прылашкевіча сем разоў выклікалі на допыт следчыя. І пры гэтым кожны раз «прамывалі мазгі».

## «Нас забралі без агрэсіі і асудзілі за дзве хвіліны»

Юрый Прылашкевіч нарадзіўся ў Гродне, але зараз жыве і працуе ў Смаргоні. З пачаткам акцый супраць фальсіфікацый на выбарах ён узяў адпачынак за свой кошт і паехаў пратэставаць у родны горад.

Яго затрымалі ў парку імя Жылібера 23 жніўня, калі ён з братам і іншымі людзьмі стаяў з бел-чырвона-белым сцягам у руках побач з вечным агнём. Ужо ад пачатку заўважыў, што за імі сочаць амапаўцы, і нават падумаў: напэўна, забяруць.

*«Так і адбылося: калі мы ўжо сабраліся разыходзіцца, да нас падышлі некалькі амапаўцаў і сказалі, што мы сёння дамоў не патрапім, а паедзем з імі,* – згадвае Юрый. – *Праўда, забіралі нас без асаблівай агрэсіі».*

Спачатку адвезлі ў Ленінскі РАУС. Міліцэйскі афіцэр адразу прыгразіў, што будзе ўзбуджана крымінальная справа за арганізацыю несанкцыянаванага мерапрыемства. Праўда, потым, кудысьці сышоўшы і вярнуўшыся з нейкай паперай, паведаміў, што на Юрыя складзены адміністрацыйны пратакол за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве.

*«Я з тым пратаколам не пагадзіўся і сваю пазіцыю патлумачыў канстытуцыйным правам на свабоду выказванняў і волевыяўлення,* – канстатуе мой суразмоўца. – *Пратакол не падпісаў».*

Амаль да раніцы затрыманыя прасядзелі ў Ленінскім РАУС, а потым іх адвезлі ў ІЧУ на вуліцы Гая. У машыне было шэсць чалавек – усіх затрымалі на акцыі ў парку Жылібера.

У ізалятары Юрый трапіў у камеру разам з братам. Яшчэ праз дзень прыехалі трое суддзяў, і пачаліся працэсы.

Прылашкевіча судзіла жанчына, прозвішча якой ён не запомніў, але ў памяці на ўсё жыццё засталося іншае.

*«Сведкі не было, ён нібыта быў у камандзіроўцы, суддзя зачытала пратакол і запыталася, ці згодны я з тым, што напісана,* – узгадвае Прылашкевіч. – *Я адказаў, што не згодны, а яна мне аб'явіла: раз не згодны – 15 сутак арышту».*

Суд працягваўся дзве хвіліны. Брата Юрыя аштрафавалі на 15 базавых велічынь, бо ён з пратаколам пагадзіўся.

*«Я сказаў суддзі «Дзякуй вялікі!» і пажадаў добрага здароўя,* – без ценю ўсмешкі кажа спадар Юрый. – *Няхай гэта будзе на яе сумленні».*

## Пазнаёміўся з «ненастаяшчым прэзідэнтам»

У камеры, кажа Юрый, жыццё, канечне, не цукар. Харчаванне дрэннае, але родныя і тыя, хто вызваліўся раней, прыносілі перадачы. Дарэчы, ён быў вельмі здзіўлены, калі пры вызваленні яму выпісалі рахунак за харчаванне. Белы хлеб з кіпенем на раніцу і суп, які цяжка назваць супам, у абед абыходзіліся яму штодня ў 13 рублёў 50 капеек.

Затое давялося пазнаёміцца з цікавымі людзьмі. Усе яны адбывалі пакаранне за тое, што бралі ўдзел у акцыях.

Асабліва ўразіў карыкатурыст **Андрэй Янковіч**. На адной з акцый ён пераўвасобіўся ў Лукашэнку (для гэтага зггаліў на макушцы валасы) і трымаў у руках плакат з надпісам «Ненастаяшчы прэзідэнт». Яму прысудзілі 7 сутак, як сам ён жартаваў, за знешні выгляд. Калі Андрэй адседзеў свае суткі, дадалі яшчэ 10 за іншую акцыю.

*«Вельмі харошы хлопец – жывы, праўдзівы, любіць жартаваць,* – згадвае Юрый. – *Шкада, што з такімі людзьмі даводзіцца знаёміцца за кратамі».*

У камеры паміж затрыманымі адчувалася салідарнасць, людзі імкнуліся падтрымліваць адзін аднаго хаця б добрымі словамі.

Да супрацоўнікаў ІЧУ Юрый прэтэнзій не мае, яго, наадварот, здзівіла, што да «палітычных» яны ставіліся даволі адэкватна.

## «Ён нармальны мужык, ён за нас...»

Самым цяжкім за гэтыя дні, паводле слоў майго суразмоўцы, было хадзіць на допыты да следчых. За 15 дзен знаходжання ў ІЧУ яго выклікалі сем разоў.

*«Найперш дапытваліся, ці плацілі за ўдзел у акцыях грошы»,* – кажа Юрый.

Ён у адказ ў іх пытаўся, ці давалі ім кватэры і па тысячы долараў за тое, што збівалі людзей. Пасля такіх слоў следчыя пачыналі запалохваць. Паказвалі нейкія здымкі з бойкамі: маўляў, вось мужчына, падобны на цябе, можаш трапіць пад крымінальную справу.

Кожны раз на размову выклікалі розныя следчыя. Прамыўка мазгоў працягвалася хвілін дзесяць. А апошні раз з ім размаўлялі больш за гадзіну, прычым вельмі груба, па-хамску.

*«Ты мне сябар ці вораг?»* – *пытаўся адзін з іх,* – успамінае Юрый. – *А я яму адказваў: залежыць ад таго, як мы з табой паразмаўляем. І потым пачалі страшыць: маўляў, калі пойдзем пад Еўрасаюз, нам будзе хана, і падобныя глупствы. А потым пытаюцца: «Навошта выйшаў на плошчу?» Я ім шчыра казаў: вы самі добра разумееце, што падманулі і мяне, і вас, сфальсіфіцыравалі вынікі галасавання. А мне ў адказ: бацька за нас, ён мужык...»*

## На такія размовы выклікалі ўсіх «палітычных»

Пасля таго як Юрый выйшаў з ізалятара, да яго жонкі на працу прыйшлі два супрацоўнікі міліцыі з крымінальнага вышуку і пачалі цікавіцца, дзе яе муж. Яны яўна хацелі, каб іх пачула як мага больш людзей. Але ўсе супрацоўніцы выказалі жанчыне падтрымку.

Што найбольш уразіла за гэтыя 15 сутак – пустыя вочы амапаўцаў, якія яго затрымлівалі.

*«Там ні кроплі інтэлекту. Людзі, якія не ведаюць гісторыі сваёй краіны, працуюць толькі па загадзе, называюць бел-чырвона-белы сцяг фашысцкім і зацята ў гэта вераць»,* – сумна заўважае Юрый.

Праўда, напрыканцы нашай размовы бадзёра дадае: *«Усё роўна мы пераможам!»*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЭКСПЕРТИЗА

## Профессор Леонид ПЕРГАМЕНЩИК:

# «Страх боится активности»

Август 2020 года навсегда запомнится белорусам беспрецедентной жестокостью силовиков. Многие из пострадавших еще долго будут залечивать нанесенные им увечья. Но тех, кому приходится восстанавливаться психически и психологически, гораздо больше. Среди них не только травмированные физически, но и их родные, друзья, коллеги. По большому счету пострадавшим можно считать любого нормального, чувствующего человека, который заглянет в интернет и переживет шок от того, что прочтет и увидит. Можно сказать, белорусам в эти окаянные дни нанесена коллективная психотравма.

О том, как с ней справиться, «Народная Воля» расспросила доктора психологических наук, профессора БГПУ им.М.Танка Леонида Пергаменщика.

**– Леонид Абрамович, как проявляется посттравматический синдром? Сколько он может длиться?**

– Все люди разные, как и их реакции на одну и ту же кризисную ситуацию. Для кого-то из переживших насилие это станет значимым событием биографии. Увидев неприглядную, несправедливую сторону жизни, они многое переоценят, станут более сильными и уверенными в себе. У других перенесенные потрясения обернутся впоследствии психосоматическими проявлениями. По обращениям к психологам мы видим, что у многих после травмы нарушается сон, аппетит, память, концентрация внимания, наблюдается тремор рук, тахикардия. Они подвержены паническим атакам, страху, растерянности. Некоторые боятся выходить из дома, боятся людей в форме, замыкаются в себе, ничего не хотят рассказывать.

Острая стадия переживания стрессового события (ее еще называют шоком, оцепенением) может длиться до 30 дней, после чего состояние стабилизируется, и постепенно люди возвращаются к докризисному периоду. Но случается, что стресс переходит в хроническую форму, развивается депрессия, посещают суицидальные мысли. Если спустя месяц-два после случившегося самочувствие не улучшается, нужно обращаться к специалистам.

**– Какая категория людей, по оценкам психологов, лучше справляется с психотравмами, а какая «увязает» в них? Можно ли самостоятельно преодолевать страх, если он приобретает хронический характер?**

– С кризисом всегда легче справляются психически здоровые, целеустремленные, образованные люди, у которых есть сильный тыл, поддержка близких. Неуверенные в себе, пережившие в жизни другие кризисные события и не преодолевшие их чаще оказываются в состоянии хронического стресса. К сожалению, у некоторых после кризисных ситуаций формируется рентная установка. Суть ее – «мне должны компенсировать мои страдания». А здоровое поведение состоит в том, чтобы принять горькие события как часть жизни, принять помощь, но не считать себя жертвой. Страх – это нормальная реакция, это сигнал об опасности, к нему нужно прислушиваться. Без него человечество не выжило бы. Чего он «боится»? Действий, деятельности, активности. Поэтому для борьбы со страхом очень важно продолжать заниматься тем, что нравится и в чем вы добивались хороших результатов. Каждый человек должен иметь проверенный «инструмент» выхода из кризиса. Это могут быть дыхательные практики, хобби, прогулки на природе, чтение, общение с людьми и четвероногими питомцами. Психологи сегодня обучают полезным навыкам и техникам тех, кто пережил кризисную ситуацию.

**– Как помочь тем, кто не готов посвящать в свои переживания даже родных, не говоря о посторонних? Очень многие пострадавшие никуда не обращаются…**



– Чтобы освобождаться от внутренней боли, нужно рассказывать о ней, делиться ею. Но если кто-то не хочет обращаться к психологам, насильно его не заставишь. Пострадавшим можно помогать через ближайшее окружение: родителей, супругов, братьев и сестер, друзей. Близкие должны усвоить: все, что происходит в посткризисный период, – это нормальная реакция на ненормальную ситуацию. Семья связывает травмированных людей с миром. Для прошедших через насилие мир – синоним опасности, угрозы. Задача родственников – демонстрировать стабильность и спокойствие, делать то, что и обычно: готовить еду, убирать, читать, выходить на прогулку, показывать, что они по-прежнему любят и будут с пострадавшими при любых обстоятельствах. Больше всего в кризисных ситуациях человека «убивает» равнодушие, безразличие со стороны близкого круга.

**– В некоторых семьях пострадавших не только не поддерживают, но еще и осуждают. Как защититься от чувства вины, которое культивируют?**

– Такое отношение близких усиливает травму. Возникает когнитивный диссонанс: с одной стороны, человек чувствует себя несправедливо пострадавшим, с другой – виноватым в этом. Любовь близких, прежде всего родителей, должна быть безусловной. Семья – последняя защита, последняя крепость. И если вы хотите, чтобы сыну или дочке стало легче, нельзя обвинять. Нужно не устраивать политические диспуты, а помочь родному человеку прийти в себя, вернуть уверенность.

**– Сегодня от многих пострадавших от насилия слышу: «Хочу поскорей уехать из этой страны». Насколько эта реакция правильная, здоровая, на взгляд психолога?**

– Миграция требует от человека значительных усилий: в другой стране – другая культура, язык, люди, и к новым условиям нужно адаптироваться. Уезжая в состоянии стресса, человек увозит с собой травмирующее событие. Новая непривычная жизнь не способствует выздоровлению, а нередко только усугубляет кризис. Психологи рекомендуют восстановиться дома, и только потом принимать решение.

**– Уверена, очень многих белорусов волнует: чем объяснить немотивированную звериную жестокость силовиков по отношению к невооруженным согражданам? Пытки, издевательства, которым подвергли ни в чем не виновных мирных людей, – за пределами понимания. И ведь все эти нелюди безнаказанны и по-прежнему остаются на своих местах.**

– Чтобы ответить на этот важнейший вопрос профессионально, я должен располагать результатами тщательных исследований. А их нет, и не известно, когда появятся. Такого опыта, как в августе нынешнего года в Беларуси, еще не было. К сожалению, психологов не допускают к тем, кто совершает насилие. Сейчас мы занимаемся практической помощью пострадавшим. На анализ произошедшего пока нет времени. Вопрос о природе жестокости и садизма изучается специалистами во всем мире, на эту тему написана масса трудов. Есть такое понятие в психологии – «банальность зла». Его ввела философ Ханна Арендт, написавшая книгу об Альфреде Эйхмане, «архитекторе» Холокоста. Этот человек, загубивший миллионы людей, был хорошим семьянином, заботился о жене и сыновьях, любил музыку, отличался дисциплинированностью и даже говорил о Боге. Как такое возможно? И как в Германии – одном из мировых центров цивилизации своего времени – произошло заражение бациллами ненависти? Однозначного ответа на этот вопрос по-прежнему нет. После своего классического эксперимента американский социальный психолог и педагог Стэнли Милгрэм сделал вывод: причина необычной жестокости испытуемых – снятие с себя ответственности за содеянное, передача ее другому.

**– Вы занимались реабилитацией пострадавших после аварии на ЧАЭС, трагедии на Немиге, теракта в метро, ЧП в столбцовской школе. В чем особенности работы с пострадавшими от силовиков?**

– Прежде мы имели дело с пострадавшими после завершившегося события и примерно понимали, какую помощь и как нужно оказывать, видели временную перспективу. Главная особенность нынешней ситуации – ее незавершенность. Наша задача – научить преодолевать то, что произошло, сопротивляться тому, что может случиться, и выработать стратегию поведения в условиях, когда кризис не закончен.

**– На что можно, по-вашему, опереться в эти трудные времена, когда совершенно непонятно, что ждет завтра?**

– Рождается гражданское общество. Люди объединяются между собой для выполнения самых простых задач – помочь врачам, которые на передовой в борьбе с коронавирусом, поддержать пострадавших от насилия. Это основа, фундамент для формирования самоуважения как отдельного человека, так и общества. Возможно, это самый важный, значительный результат происходящего на наших глазах травматического события.

**Беседовала Илона ВОСКРЕСЕНСКАЯ.**
**Фото автора.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
11 ВЕРАСНЯ 2020 г.

ЖАНЧЫНЫ З ЛЕГЕНДЫ

Анатоль БУТЭВІЧ

# ДЗВЕ ГАННЫ АДНАГО РАДЗІВІЛА

*(Працяг. Пачатак у №№63,65,67,69,70,71.)*

Яшчэ не нарадзіўся знакаміты аўстрыйскі кампазітар Франц Шуберт. Яшчэ не паспеў ён стварыць сваю несмяротную музычную кампазіцыю «Авэ Марыя». Яшчэ нясвіжскі князь Караль Станіслаў Радзівіл не атрымаў свайго другога прозвішча Юстус, што азначае Справядлівы. Яшчэ не думала шляхта вылучаць гэтага нясвіжскага выхаванца на польскі каралеўскі пасад. Яшчэ ў самым росквіце і прыгажосці чакае свайго шчасця горача каханая Каралем нясвіжская месцічка Ганулля. Яшчэ не можа прывыкнуць пасля манастыра да традыцый багатага жыцця ў варшаўскім каралеўскім палацы сірата Ганна Сангушкава.

Яшчэ падзеі, адасобленыя між сабой часам і тэрыторыяй, развіваюцца паводле свайго ўласнага сцэнарыя, а ўжо ў галаве амбітнай сястры польскага караля Яна Сабескага Кацярыны нарадзіўся план, які ўсе гэтыя падзеі і ўсіх іхніх удзельнікаў аб'яднаў у адно. Хто ж гэтая незвычайнага таленту жанчына, якая здолела прымусіць еўрапейскі свет круціцца па-свойму?

Родная сястра караля польскага Яна III Сабескага Кацярына Сабеская – чацвёртае дзіця ў сям'і Якуба Сабескага і Сафіі Тэафілі з дваранскага роду Данілевічаў. Яе амбітная маці пасля смерці мужа змусіла дачку ў канцы лютага 1650 года выйсці замуж за князя Уладзіслава Даміініка Заслаўскага-Астрожскага, які быў на 20 гадоў старэйшы за 16-гадовую Кацярыну. Як там і што было да таго – невядома, але ўжо 6 сакавіка таго ж года Кацярына нарадзіла сына Аляксандра, а затым і дачку Тэафілю. Ды неўзабаве муж памёр. У 1658 годзе Кацярына стала жонкай шостага нясвіжскага ардыната Міхаіла I Казіміра Радзівіла. Ягоным хросным бацькам быў будучы кароль польскі Ян Казімір Ваза. Сам Міхаіл служыў тады падчашым ВКЛ. Шлюб адбываўся ў Старым Сяле каля Львова.

Неўзабавае Кацярына стала актыўнай памочніцай мужа. А ён рос у пасадах, як грыб пасля дажджу: стольнік вялікі літоўскі, крайчы вялікі літоўскі, падчашы вялікі літоўскі, кашталян віленскі, ваявода віленскі, падканцлер і гетман польны літоўскі. Хіба ж не паверыш, што меў выдатныя здольнасці? А яшчэ Міхаіл Радзівіл быў добрым сябрам караля польскага Яна Сабескага.

Жонка не магла адставаць ад мужа. Ён з роду некаранаваных каралёў? Дык і яна не горшая – некаранаваная каралева. Не крыўдуе за гэткую мянушку нават сапраўдная каралева польская – жонка Яна Сабескага


Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

Марыя дэ Арквен, лепшая сяброўка Кацярыны. Кіруе Кацярына нароўні з мужам. Не для яе прыдумалі паслушэнства, падпарадкаванне, пасіўнасць. «Каралеўскі» характар праяўляла даволі актыўна, здаралася, не там, дзе патрэбна. І як яны толькі ўжываліся пад адным дахам? Мо мірылі іх дзеці? Сямёра нарадзіла Кацярына.

Падчас чарговага гасцявання ў каралеўскай рэзідэнцыі ў Варшаве прыкмеціла Кацярына князёўну Ганну Кацярыну з роду Сангушкаў, якую каралева Марыя дэ Арквен забрала з манастыра. Ганна была дачкой суражскага старасты Гераніма Сангушкі і Канстанцыі Сапегі. Бацькі рана памерлі, Ганна засталася поўнай сіратой. Таму і апынулася ў манастыры. І тут у некаранаванай каралевы Кацярыны нарадзіўся той самы авантурны план, ажыццяўленне якога здзівіла не толькі нясвіжан, а і вельмі далёкі ад іх свет.

Сын Кацярыны Сабескай-Радзівіл 23-гадовы Караль Станіслаў Радзівіл на той час (1691 год) адвучыўся ў Еўропе, вярнуўся ў Нясвіж, стаў канцлерам Вялікага Княства Літоўскага і быў па вушы закаханы ў нясвіжскую месцічку прыгажуню Ганну – Ганулю, як найчасцей называлі яе. Ды хіба магла ганарлівая маці згадзіцца з такім сынавым выбарам? Яна, амаль што каралева, будзе дзяліць рэзідэнцыю нясвіжскіх уладароў з найпростым з простых дзяўчом?! Не бываць такому! Ні-ко-лі! Але гвалту не распачынала, не запярэчыла сыну. Разумны хітрасцю бярэ. Мо памятала пра няўдалы вопыт падобнай сутычкі маці караля польскага Жыгімонта II Аўгуста Боны Сфорцы не толькі з сынам, а і з ягонай абранніцай Барбарай Радзівіл? Сама сабе паабяцала Кацярына, што ні ў якім выпадку не стане бедная просталюдзінка багатай (на чужым багацці) княгіняй, тут ужо яна, маці, пастараецца. Але сваімі, ёй уласцівымі сродкамі.

І пачала дзейнічаць. Кацярына-маці запрасіла ў Нясвіжскі радзівілаўскі замак Ганну. Не, не нясвіжскую бяднячку, якую кахаў сын, а тую, з каралеўскага замка, якую Караль і вокам не бачыў. Ганна Кацярына Сангушкава прыехала ў Нясвіж з Варшавы, ахвотна знаёмілася з уладаннямі Радзівілаў. Цікава адзначыць, што паходжаннем сваім яна была з сённяшніх беларускіх зямель. Нарадзілася ў 1676 годзе ў Ракаве. Так-так, нашым сённяшнім валожынскім Ракаве. Некалі ён быў вядомым сваёй размаітай гісторыяй горадам і ў XVII стагоддзі належаў Сангушкам.

Аднойчы маці Караля Станіслава прапанавала Ганне Кацярыне наведаць нясвіжскі Фарны касцёл Божага цела, той самы, які спраектаваў знакаміты італьянскі архітэктар Ян Марыя Бернардоні. Папрасіла апрануць свой лепшы ўбор: маўляў, ідуць на вянчанне, а на гэткай урачыстасці не да твару выглядаць беднай. А чыё шлюбаванне адбудзецца, то й не сказала. І ўжо ў касцёле звярнулася да прысутных людзей з цэлай прамовай. Патлумачыла, што яе любімы сын Караль моцна закаханы, але без згоды маці баіцца прывесці ў сям'ю нявестку. Дык вось – няхай Караль не баіцца, яна, маці, не толькі не пярэчыць, а нават настойвае на шлюбе з Ганнай. Хай вянчанне адбудзецца зараз жа.

Сэрца ў Караля радасна ўзбрыкнула, але хваля радасці не паспела набраць вышыні. Яго нібыта халоднай вадой астудзілі – маці падвяла да сына зусім іншую дзяўчыну. Князь трапіў у хітра расстаўленую пастку. Не паспеў ён прамовіць хоць слова, як ксёндз задаў сакраментальнае пытанне, ці згодны ён на шлюб. Караль не пасмеў адказаць нязгодай. Для яго было звыклым з дзяцінства: гонар вышэй за ўсё. Гонар уласны, гонар роду, гонар высокіх варшаўскіх сваякоў. Гонар ні ў чым не вінаватай Ганны Сангушкавай нарэшце. Таму і не захацеў прынароднага высвятлення абставін. А каханне? Сцерпіцца – злюбіцца, як палічыла маці.

Ды не знікла яно з душы Караля, не выветрылася. Князь па-ранейшаму шчыра кахаў сваю першую абранніцу – просталюдзінку Ганну. Аднак даведацца пра гэта ягонай новай спадарожніцы жыцця было складана, бо, калі ў забыцці альбо ў сне клікаў муж Ганулю-Ганну, гэта не трывожыла жонку, нават цешыла яе такая мужава прыхільнасць. А якую Ганну згадваў, пра тое ведаў толькі ён сам.

Радавалася маці: уратавала сына. Цешылася Ганна Сангушкава – трапіла ў магутны і шанаваны магнацкі род. А што ж каханая і закаханая Ганулля – тая, нясвіжская? Мала хто бачыў яе слёзы і пакутлівыя перажыванні. Схавалася яна ад людской мітусні і цікаўных вачэй за сценамі манастыра. Горача малілася манахіня Марыя (такое імя ўзяла нясвіжская месцічка Ганна) за сябе і за лёс яе каханага князя. Звярталася да Святой Дзевы Марыі і падчас службы, калі манахіні спявалі ў касцельным хоры. Малілася, спявала разам з усімі, а сама са скрухай кідала позірк на Караля. Часам пагляды іхнія сустракаліся. І гэтулькі пакуты чытала Ганна-Марыя ў вачах каханага, што сэрца гатова было выскачыць з грудзей. Але вусны іхнія маўчалі. За іх нячутнымі галасамі прамаўлялі сэрцы. Здавалася, гэтага і гэткага кахання ніхто не мог заўважыць. І нібыта не заўважаў. А яно жыло, пульсавала, клікала на добрыя справы.

Мо і праз гэта здолеў Караль Станіслаў шмат карыснага зрабіць на пасадах падканцлера і канцлера вялікага літоўскага, канюшага вялікага і стольніка вялікага літоўскага, маршалка Трыбунала ВКЛ, гаспадара Нясвіжа і замка. Вялікай падтрымкай карыстаўся Караль і ў мясцовага люду. За такое стаўленне да жыцця і такія паводзіны ў ім назвалі Караля Радзівіла Юстус – Справядлівы, гэты прыдомак назаўсёды стаў часцінкай прозвішча. А ў сямейных стасунках з жонкай, з якой яны практычна ніколі не размаўлялі пра каханне, мелі дванаццаць сыноў і дачок. Большасць іх памірала малалетнімі. Мо таму Ганна Кацярына на партрэце прадстае ва ўсім чорным, у жалобным уборы. Некаторым жа пашчасціла стаць выбітнымі і знанымі асобамі ў еўрапейскай палітыцы. Адзін жыццёвы прыклад іхняга сына – дзявятага нясвіжскага ардыната, які адрадзіў знявечаныя Нясвіж і замак пасля Паўночнай вайны 1700–1721 гадоў, гетмана польнага літоўскага, гетмана вялікага літоўскага Міхаіла Казіміра Радзівіла Рыбанькі – чаго варты!

Час развітацца з жыццём надышоў для 50-гадовага Караля Станіслава 2 жніўня 1719 года. Гэта стала сапраўднай трагедыяй для яго каханай Ганны-Марыі. Не бачыла яна сэнсу жыць без вачэй каханага. Яе душа адляцела на неба адразу ж, як толькі манахіня пачула пахавальны жалобны звон Нясвіжскага касцёла.

Ганна Кацярына Сангушкава-Радзівіл перажыла мужа на 27 гадоў і пакінула гэты свет 70-гадовай удавой у снежні 1746 года. Але да гэтага яна выявіла свае здольнасці ў арганізацыі славутых вытворчасцяў. Менавіта яе стараннямі набылі шырокую еўрапейскую вядомасць створаныя ўпершыню на беларускіх землях мануфактуры. Напрыклад, шкляныя гуты ў Налібоках і Урэччы. Выробленыя ва Урэччы, якое знаходзілася на Случчыне, а сёння ў Любанскім раёне, люстры і люстэркі былі адзінымі на землях ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Дзейнічала гэтая вытворчасць каля 120 гадоў. А непаўторныя налібоцкія келіхі і кілішкі (мануфактура існавала каля 150 гадоў у Налібоках і Янкавічах сённяшняга Стаўбцоўскага раёна) мелі вялікую папулярнасць у многіх еўрапейскіх гарадах, дзе дзейнічалі нават спецыяльныя радзівілаўскія крамы. Ганна стала таксама заснавальніцай прадзільных мануфактур.

А якімі ніткамі да ўсяго гэтага прышыты аўстрыйскі кампазітар Франц Шуберт? Калі амаль праз 120 гадоў пасля названых падзей ён пачуў расказ пра лёс просталюдзінкі Ганны-Марыі, эмоцыі і перажыванні былі такія моцныя, што не адпускалі да той пары, пакуль не выліліся ў несмяротную дагэтуль музычную кампазіцыю «Авэ Марыя». Так гэта ці не, то хто ж яго ведае? Але паслухайце шубертаўскую «Авэ Марыя» – мо зразумееце, што значыць для людзей сапраўднае Каханне.

*(Працяг будзе.)*

ЗЕМЛЯКІ

# Кацярына Вашкевіч: вучылася ў Гомелі, працуе ў Бостане

Куды толькі не закідвае лёс беларусаў! Кацярына Вашкевіч апынулася аж за акіянам, у Злучаных Штатах Амерыкі. З ёю – гутарка.

**– Каця, раскажы трохі пра сябе: дзе нарадзілася, вучылася?**

– Я нарадзілася і вырасла ў Гомелі ў сям'і ўрача і выкладчыка медкаледжа. У Гомелі скончыла школу, медыцынскае вучылішча (на той момант) і медыцынскі ўніверсітэт. Падчас вучобы працавала ў розных медустановах Гомеля санітаркай, у «хуткай дапамозе», медсястрой.

Я не хацела станавіцца ўрачом. У школе не была гатова зрабіць выбар, хоць і правяла дзяцінства ў медустановах і часта гуляла з медыцынскімі інструментамі. Хацела паступаць у БДУ на філалагічны факультэт. Але так склалася, што трапіла працаваць у «хуткую дапамогу», і мне вельмі спадабалася.

**– А як апынулася ў Амерыцы?**

– У 19 гадоў выпадкова ўбачыла ў газеце абвестку пра падачу



заявак на грынкарту і падала. Выйграла ўжо ў 25, пад заканчэнне ўніверсітэта. У Амерыцы ў мяне нікога не было, і мы (я і мой былы муж) узялі квіткі на Нью-Ёрк, у нікуды. Даведаўшыся пра гэта, мая мама ў паніцы пачала шукаць знаёмых і знайшла сяброўку ў прыгарадзе Чыкага. Яна там жыла з сям'ёй сваёй дачкі. Так у маі 2012 года мы апынуліся ў Чыкага.

**– Як складвалася жыццё ў Штатах?**

– Дакументы, курсы англійскай, пошукі жылля, працы… Аглядаліся па баках. Першая праца, як і ў многіх, – прыборка. На шчасце, гэта быў вельмі кароткі перыяд. У мяне, вядома, была мэта пацвердзіць дыплом урача. Набыла падручнікі, пачала рыхтавацца.

**– Удалося пацвердзіць дыплом?**

– Я праходзіла стандартную працэдуру верыфікацыі дыплома праз Educational Commission for Foreign Medical Graduates, пасля чаго трэба было ў агульным патоку браць дзяржіспыты на атрыманне медыцынскай ліцэнзіі – United States Medical License Examination (USMLE). Я не прайшла іспыты і пачала шукаць працу. Багаж ведаў быў. Паралельна валанцёрыла ў шпіталі ў прыгарадзе Чыкага.

**– А ці можна неяк уладкавацца без USMLE?**

– Вядома, тое, што я не прайшла іспыты, было вельмі балюча, але я працягвала пошукі працы ў сферы аховы здароўя. Аднойчы я атрымала паведамленне ад знаёмага, таксама з Беларусі, з майго ўніверсітэта, аб тым, што ў аддзяленні, у якім ён працаваў, была адкрытая пазіцыя асістэнта патолага. Яны разглядалі кандыдатуры замежных выпускнікоў. Я падала сваё рэзюмэ, прайшла сумоўе, і мяне ўзялі. Так я стала асістэнтам патолага.

**– У Чыкага?**

– Не, гэта было ў Новым Арлеане (штат Луізіяна), куды я спецыяльна пераехала дзеля гэтай працы.

**– А дзе ты цяпер?**

– Зараз я жыву і працую ў Бостане (штат Масачусетс) у Tufts Medical Center і Veteran Affairs Hospital. Мне вельмі падабаецца мая праца: гэта вельмі цікава, але не магу сказаць, што проста.

**– Што змянілася з распаўсюджваннем COVID-19?**

– З пачатку пандэміі скарацілася колькасць планавых аперацый. Але ўсе экстранныя, а таксама аперацыі па неадкладных прычынах (злаякасныя новаўтварэнні, да прыкладу) праводзяцца. Вядома, я сутыкалася з вірусам у бальніцы. Верагодна, вірусная нагрузка была адносна невялікая, і мой імунітэт пакуль яшчэ спраўляецца.

**– Не страшна?**

– Не, мне зусім не страшна. За гады працы ў ахове здароўя прывыкаеш да ўсяго. І рыхтуешся да ўсяго. Я не лічу сваю пазіцыю лёгкадумнай – я ведьмі добра ўсведамляю тое, што адбываецца, і стараюся дзейнічаць па сітуацыі. Вядома, прымаючы ўсе меры прафілактыкі. Я іх і раней прымала, таму асабіста ў маім жыцці з'явіліся толькі маскі ў штодзённым побыце. Комплекс астатніх мерапрыемстваў я і раней праводзіла.

**– Як ты ведаеш, у Беларусі няма каранціну, і ўлады не лічаць патрэбным уводзіць сацыяльнае дыстанцыраванне. Шараговаму грамадзяніну атрымаць праўдзівую інфармацыю пра сітуацыю з COVID-19 немагчыма. Многія, нават калі б і хацелі самаізалявацца, не могуць сабе гэтага дазволіць – трэба зарабляць, каб карміць сям'ю. Што можаш параіць нашым суродзічам у такой няпростай сітуацыі?**

– Беларусам, якія знаходзяцца ў Беларусі, я параіла б не панікаваць – гэта стрэс, а ён аслабляе імунітэт. Намагацца праводзіць прафілактыку і захоўваць агульныя рэкамендацыі. Надаваць увагу здароўю: перагледзець сваё харчаванне, займацца спортам (дома гэта можна рабіць па відэаўроках на YouTube, хадзіць на пешыя прагулкі), захоўваць асабістую і грамадскую гігіену. На жаль, у сітуацыі адсутнасці каранціну, які Беларусь нібыта не можа сабе дазволіць, ёсць толькі адна магчымасць – паклапаціцца пра сябе самім.

**Размаўляў Вячаслаў БОРТНІК.**

СТОП-КРАН

# За бортам!



Калі бачыш чарговыя неадэкватныя дзеянні з боку ўлад, думаеш, што мы ўжо дасягнулі дна, але новы дзень даказвае, што гэта не так. Усіх нязгодных з «лініяй партыі» ўлады, відаць, вырашылі перавыхаваць.

На гэтым тыдні вядомая беларуская плыўчыха **Аляксандра Герасіменя**, якая мае свой спартыўны клуб і працуе з дзецьмі, распавяла, што школы не працягваюць з ёй дамовы арэнды.

Нагадаем, што Аляксандра неаднойчы рэзка выказвалася ў бок улад, выступала за празрыстыя выбары, супраць гвалту ў краіне, а таксама падпісала ліст спартсменаў з патрабаваннямі да ўлад.

*«Школа №2 не плануе падпісваць з намі дамову, яны ўжо запаўняюць групы сваімі дзецьмі са школы,* – паведаміла Аляксандра Герасіменя бацькам, чые дзеці займаюцца ў яе. – *У такой сітуацыі мы апынуліся з-за нашай палітычнай пазіцыі, якая заключаецца ў тым, што мы не падтрымліваем гвалт і дзеючы рэжым.*

*На дадзены момант клуб знаходзіцца пад дзяржаўнай санкцыяй, у прыватнасці, санкцыяй упраўлення адукацыі Фрунзенскага раёна, дзе нам проста не падпісваюць арэнду і не даюць магчымасці працаваць з нашымі дзеткамі.*

*Мы разумеем, што дзеці абсалютна ні пры чым, яны апынуліся крайнімі, і лічым: хоць кіраўніцтва і магло праявіць шэраг пэўных чалавечых якасцяў, на жаль, яно іх не праявіла, і нашы дзеці апынуліся за бортам».*

Варта дадаць, што клуб плавання Аляксандры Герасімені працуе яшчэ ў трох школах, і там таксама не падпісалі дамову арэнды.

Афіцыйная прычына адмовы – складаная эпідэміялагічная абстаноўка.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СИТУАЦИЯ

# Пройдет ли в Минске чемпионат мира по хоккею?

*Из-за действий белорусских властей проведение первенства, которое должно было состояться в Минске и Риге в следующем году, оказалось под угрозой.*

Политики Латвии одними из первых начали высказывать недовольство происходящими в соседней Беларуси событиями. Практически одновременно с запретом президенту Беларуси Александру Лукашенко и еще 29 официальным лицам нашей страны въезжать в Латвию было составлено и письмо в Международную федерацию хоккея относительно будущего хоккейного чемпионата мира.

*«Прошедшие 9 августа 2020 года в Беларуси президентские выборы не отвечают международным обязательствам, принятым в мире демократическим принципам и нормам права, они не были свободными и справедливыми*, – говорится в письме. – *Репрессивные действия белорусских властей и применение насилия в отношении представителей гражданского общества и независимых СМИ нарушают международно признанные права человека и демократические принципы. По мнению правительства Латвийской Республики, такие действия несовместимы с ценностями Международной федерации хоккея и, следовательно, несовместимы со статусом страны – организатора чемпионата мира – 2021».*

В связи с этим правительство Латвии призвало передать статус главного организатора чемпионата мира по хоккею с шайбой 2021 года какой-то другой стране. Также, если ситуация с правами и свободами человека в Беларуси не изменится и соответствующие решения со стороны ИИХФ не будут приняты, правительство Латвийской Республики может отозвать свои гарантии в качестве страны-организатора первенства.

Кстати, в случае отказа от проведения чемпионата Латвия тоже теряет. Во-первых, ей придется заплатить штраф в размере 930 тысяч евро. Во-вторых, события такого масштаба, как хоккейный чемпионат мира, в этой стране не проходило уже пятнадцать лет, а если Латвия откажется, то не будет и еще ближайших пятнадцать лет.

Но Финляндия в случае необходимости рассмотрит возможность принять у себя чемпионат мира 2021 года, о чем уже сообщил президент Финской хоккейной ассоциации Харри Нуммеля.

Председатель Федерации хоккея **Дмитрий Басков** уже заявил, что Беларусь может провести турнир и в одиночку, но многие к этому относятся скептически.

*«Теперь президент Международной федерации хоккея Рене Фазель попал в труднейшую ситуацию*, – сообщает *sport-express.ru*. – *Прямо сейчас нужно принимать какое-то решение, но в международной федерации не сталкивались с такими проблемами. И им реально страшно. Что делать?*

*Если забрать турнир у Минска, то это будет политическое решение, а их Рене Фазель тщательно избегает, стараясь понравиться всем. Но если менять Латвию, то не исключен еще более серьезный скандал. А вы уверены, что в Беларусь поедет кто-то еще, кроме России? Я сильно сомневаюсь, что остальные шесть сборных согласятся играть в бушующем Минске, а насколько затянется противостояние в этой стране, никто не знает.*

*Может быть, все и закончится, но где гарантии? Перенести белорусскую часть в другую страну? Это очень непросто. Федерация хоккея не зря назначает турниры на четыре года вперед, а любой перенос для них – неразрешимая задача. Надо что-то делать, но пока ситуация выглядит тупиковой, и мы под угрозой отмены и следующего международного турнира».*




**Сергей ЗАБЛОЦКИЙ.**

МАЗАІКА

## Хто з кім згуляе?

*Адбылася жараб'ёўка пар 1/8 фіналу нацыянальнага Кубка Беларусі па футболе.*

Згуляюць:
«Слуцк» – «Шахцёр» (Салігорск),
«Славія» (Мазыр) – «Слонім» (Д2)/«Нёман» (Гродна),
«Крумкачы» (Мінск, Д2) – «Іслач» (Мінскі раён),
«Рух» (Брэст) – «Мінск»,
«Гарадзея» – «Арсенал» (Дзяржынск, Д2),
«Спадарожнік» (Рэчыца, Д2) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна),
«Энергетык-БДУ» (Мінск) – «Віцебск»,
БАТЭ (Барысаў) – «Дынама» (Брэст).

Матчы пройдуць 2–4 кастрычніка. Уладальнік пуцёўкі ў чвэрцьфінал вызначыцца па выніках аднаго матча.

## Прывезлі партугальцам «падарунак»

*Матч кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы (U-21) з удзелам маладзёжных зборных Партугаліі і Беларусі так і не адбыўся.*

Нагадаем, што пасля прылёту беларускай каманды ў Партугалію ўсім яе членам адразу зрабілі тэсты на каранавірус. У некалькіх футбалістаў беларускай зборнай тэсты далі станоўчы вынік.

У выніку матч адмянілі, а беларусы адправіліся дадому. Разглядаецца магчымасць правядзення адмененага матча ў лістападзе.

ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

*На пратэстных акцыях людзі спяваюць песню «Муры». Тэкст пераклаў з польскай мовы Андрэй Хадановіч. Мне падабаецца, як яе выконвае знакаміты беларускі бард Зміцер Вайцюшкевіч.*

*Калі ласка, надрукуйце словы і ноты песні «Муры».*

**Мікалай ГРОЗАЎ,**
**жыхар в. Вялікія Нягневічы**
**Барысаўскага раёна.**

## Муры

*Аўтар тэксту* ***Яцэк КАЧМАРСКІ****.*
*Пераклаў з польскай* ***Андрэй ХАДАНОВІЧ****.*

Ён быў натхнёны і малады,
Іх незлічона было.
Ён на плошчы вёў гарады
З песняй, што блізка святло.
І запальвалі свечкі яму,
Плыў па-над плошчаю дым.
Ён спяваў: зруйнуем турму!
Яны спявалі за ім:

– Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды – то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне –
І пахавае свет стары!

Ведалі словы на памяць – і спеў
Неслі па вуліцах так,
Што кроў кіпела, і гнеў кіпеў,
І сэрцы стукалі ў такт.
Білі ў сто тысяч далоняў – і рытм
Ворагаў біў напавал.
Ішлі на муры ва ўсім свеце старым…
А ён усё граў і спяваў:

– Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды – то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне –
І пахавае свет стары!

Так паўстаў шматтысячны рух,
Воінаў цэлая раць,
Можна помнікі зносіць і брук
На камяні разбіраць.
Кожны адчуў – прыйшоў яго час
Сілы аддаць барацьбе:
Хто не з намі – той супраць нас!..
…Спявак быў сам па сабе.

Глядзеў, як шчыльныя рады
З ягонай песняю ідуць,
А песня глухне, глухне, глухне…
А муры растуць, растуць…

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды – то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне –
І пахавае свет стары!

**Муры**

Запеў
Голас
Ён быў нат-хнё-ны і ма-ла-ды, Іх не-злі-чо-на бы-ло.
9 Ён на пло-шчы вёў га-ра-ды З пес-няй, што бліз-ка свя-тло.
17 І за-паль-ва-лі свеч-кі я-му, Плыў па-над пло-шча-ю дым.
25 Ён спя-ваў: зруй-ну-ем тур-му! Я-ны спя-ва-лі за ім:
33 Рэфрэн
Раз-бу-ры тур-мы му-ры! Праг-неш сва-бо-ды то бя-ры!
42 Мур хут-ка рух-не, рух-не, рух-не І па-ха-ва-е свет ста-ры!
50 Раз-бу-ры тур-мы му-ры! Праг-неш сва-бо-ды то бя-ры!
58 Мур хут-ка рух-не, рух-не, рух-не І па-ха-ва-е свет ста-ры!

*Песня выконвалася на плошчы Незалежнасці ў Мінску 19 снежня 2010 года.*

*Андрэй Хадановіч зрабіў беларускі пераклад песні польскага барда Яцэка Качмарскага «Mury» («Муры»), напісанай ў 1978 годзе на аснове песні каталонскага выканаўцы Льюіса Ляка «L'Estaca», створанай ў 1968-м. «Муры» былі неафіцыйным гімнам прафсаюза «Салідарнасць». Найбольш вядомая руская версія песні Качмарскага – «Стены» на тэкст Кірыла Мядзведзева.*

ПАМЯЦЬ

*Чытачам «Народнай Волі» не трэба тлумачыць, хто такая Івонка Сурвілла. Імя выбітнай беларускай палітычнай дзяячкі ў замежжы, старшыні Рады БНР часта сустракаецца на старонках газеты.*
*Сёння мы вырашылі расказаць пра Паўліну Сурвіллу – малодшую дачку Янкі і Івонкі Сурвіллаў. На жаль, аповед пойдзе ў мінулым часе.*

# Святло яе душы не згасне…

Балючая страта сёлета спасцігла беларускую супольнасць у замежжы. На 57-м годзе жыцця ў амерыканскім штаце Аёва ад нечаканай цяжкай хваробы памерла Паўліна Марыя Сурвілла. Імя яе добра вядома як у замежжы, так і ў Беларусі. Амерыканскі этнамузыколаг, доктар у галіне музыказнаўства, прафесар амерыканскага Вартбург Каледжа (Wartburg College, штат Аёва), яна паходжаннем і ўсім сваім жыццём была звязана з Беларуссю, лічыла яе сваёй Бацькаўшчынай.

Але нарадзілася Паўліна на чужыне – у іспанскім Мадрыдзе – 2 лютага 1964 года. Менавіта туды занёс лёс ейных бацькоў. Паўліна была другой дачкой ў сям'і Янкі і Івонкі Сурвіллаў, якія па рэкамендацыі Рады БНР працавалі на Іспанскім нацыянальным радыё, рыхтавалі перадачы на беларускай мове для трансляцыі на Беларусь. Бацькі сп.Паўліны, абодва паходжаннем з Беларусі, апынуліся ў эміграцыі пасля Другой сусветнай вайны. Сп.Івонка – дачка вядомага беларускага дзеяча Уладзіміра Шыманца, міністра Рады БНР, мастака, – выехала на Захад разам з бацькам і ад пачатку свайго жыцця была далучана да спраў беларускай эміграцыі. Сёння яна – выбітны беларускі палітычны дзеяч у замежжы, шматгадовая старшыня Рады БНР. Дзеці Ганна і Паўліна ў такой глыбока нацыянальна свядомай і патрыятычнай сям'і выхоўваліся ў беларускім духу, размаўлялі па-беларуску, ад дзяцінства бралі ўдзел у беларускім грамадскім жыцці.

Пасля Іспаніі сям'я Сурвіллаў жыла ў Францыі, а потым, напрыканцы 1960-х гадоў, пераехала ў Канаду. Паўліна служыла музыкантам у канадскім войску. Скончыла ў 1992 годзе ўніверсітэт у штаце Мічыган у ЗША, дзе пісала магістарскую працу пра беларускую дыяспару. Потым абараніла доктарскую дысертацыю. Працавала ва ўніверсітэце Паўночнай Караліны, а потым пераехала ў Аёву, дзе атрымала пасаду выкладчыка музыкалогіі ў Вартбург Каледжы, вывучала праблемы фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці ў постсавецкай Беларусі. Вядучай тэмай яе навуковых даследаванняў была беларуская музыка. Калі Беларусь здабыла незалежнасць, Паўліна наведала Бацькаўшчыну, каб даследаваць традыцыйнае і сучаснае музычнае мастацтва ў розных рэгіёнах краіны і на Беласточчыне. Вынікам яе даследчыцкай працы была кніга «Пра русалак і рок-спевакоў». Паўліна надрукавала шэраг публікацый у амерыканскім друку пра беларускую традыцыйную і рок-музыку.

Паўліна Сурвілла стала выканаўчым дырэктарам створанага ў 2007 годзе віцэ-прэзідэнтам Паўднёва-заходняга каледжа Джэймсам Шэпардам і першым амбасадарам ЗША у Беларусі Дэвідам Суорцам Цэнтра беларускіх даследаванняў у Канзасе, першай акадэмічнай установы ў ЗША, якая займалася вывучэннем выключна Беларусі.

Паўліна была сябрам Рады БНР, брала самы дзейсны ўдзел у жыцці беларускай дыяспары на паўночнаамерыканскім кантыненце.

Ад маці і дзеда Паўліна ўнаследавала мастацкі талент, любіла маляваць, большай часткай на беларускія матывы.

Прафесар Паўліна Сурвілла арганізавала дзясяткі навуковых канферэнцый, семінараў, лекцый, прысвечаных гісторыі і сучаснасці Беларусі.

У студзені 2014 года Паўліна арганізавала ў Вартбург Каледжы, дзе сама працавала, Тыдзень беларускай культуры з цікавай, разнастайнай праграмай. Гэты каледж – адна са старэйшых прыватных навучальных установаў – быў закладзены яшчэ ў 1852 годзе. Вартбург каледж знаходзіцца ў штаце Аёва, у невялікім горадзе Уэверлі (Waverly).

Ганаровымі гасцямі падзеі былі Дэвід Суорц – першы амбасадар ЗША ў Беларусі, Станіслаў Шушкевіч з Беларусі і старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. Я таксама атрымала запрашэнне ад Паўліны наведаць Аёву.



Па дарозе я звярнула ўвагу на тое, як краявіды ў гэтым амерыканскім штаце падобны на беларускія: роўныя дагледжаныя палі, пералескі… Здавалася, што я на Бацькаўшчыне.

Падчас знаёмства з каледжам пабачыла, з якой павагай ставіліся да спадарыні Паўліны кіраўніцтва і калегі-выкладчыкі, яе студэнты. Паўліна моцна зацікавіла іх беларускай культурай, у гэтыя дні там усюды панавала беларуская тэма, студэнты актыўна запаўнялі залы, дзе адбываліся лекцыі, выступленні, сустрэчы. Асабліва гэтая зацікаўленасць адчулася напрыканцы заключнай часткі канферэнцыі, калі студэнцкі хор велічна, на чыстай беларускай мове праспяваў гімн «Магутны Божа». Гэта выступленне падрыхтавала са студэнтамі сп.Паўліна. Немагчыма было стрымаць слёзы.

Падчас гэтай паездкі я бліжэй пазнаёмілася з цудоўнай сям'ёй Паўліны. Яе муж Эрык Вахман таксама працуе ў Вартбург Каледжы, выкладае музыку. Прафесійны занятак аб'ядноўваў гэтых двух неардынарных асоб, якія з аднолькавым захапленнем ставіліся да сваёй працы. Іхнія сыны – тады яшчэ падлеткі Антон і Валік – ахвотна дапамагалі маці ў яе клопаце па падрыхтоўцы Тыдня беларускай культуры, адчувалася, што і для іх таксама блізкая беларуская справа. Сыны спадарыні Паўліны сёння ўжо дарослыя людзі: старэйшаму – 22 гады, малодшаму – 20.

Сама Паўліна так распавядала пра сваю сям'ю і выхаванне дзяцей:

*«Я беларуска, мой муж – канадзец шведскага паходжання, але вельмі шануе беларускую культуру. І мы маем двух сыноў, якія нарадзіліся ў Аёве, але яны жывуць у вельмі цікавым сямейным кантэксце. Яны чуюць беларускую мову. Мой муж не гаворыць па-беларуску, але я з маткай па-беларуску гавару. І яны вельмі добра разумеюць, што мая праца звязана з Беларуссю, і ведаюць, што гэта вельмі важная справа…*

*Але мне здаецца, што важней – гэта тое, што мы жывём традыцыйным, рытуальным жыццём, якое шануе беларускую культуру. І гэта не штучна. Гэта значыць, што на Каляды, напрыклад, мы маем куццю, мы заўсёды гэта мелі. Мы маем беларускія рэчы ўсюды ў хаце, мы маем беларускія кніжкі. Калі штосьці на Беларусі станецца, мы дыскутуем пра гэта. Гэта рэальная рэч для маіх дзяцей. І вельмі цікава, што гэта ніколі не была фармальная адукацыя. Гэта значыць, што я ніколі не брала маіх дзяцей і не казала: «Сядайце тут. Я буду вам тлумачыць, што гэта значыць – быць беларусам». Гэтага ніколі не было. І ніколі са мной не было, калі я была маленькая. Проста яны гэта бачаць і жывуць з гэтым».*

Напрыканцы красавіка гэтага года страшная навіна агаломшыла беларусаў усяго свету – не стала Паўліны Сурвіллы. Страта непапраўная, боль несуцешны!

Усім сэрцам падзяляем боль страты з мужам і сынамі Паўліны, яе маці сп.Івонкай і сястрою Ганнай, якія падчас пандэміі нават не мелі магчымасці праводзіць роднага чалавека ў апошні шлях.

Святло душы, якое Паўліна даравала сваёй сям'і і ўсім, хто яе ведаў, не згасне, а застанецца з намі назаўжды!

Светлая памяць!

**Ганна СУРМАЧ.**

***На фота:*** *Такой яна была – Паўліна Сурвілла.*

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
**Падпісныя індэксы:**
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

**Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Падпісана ў друк 10.09.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 040 экз. Заказ № 2391.